# БЕЛАРУС НА ЧУЖЫНЕ

BELARUSIAN ABROAD

BIEŁARUS NA ČUŽYNIE

Беларускі штомесячнік ў Лёндане. Заснаваны ў 1947 г. Адноўлены ў 2009.

сьнежань 2009 №1 (43)


**Шаноўныя землякі!**

**Перад вамі друкаваная вэрсія Брытанскай беларускай рассылкі, якую плянуецца рабіць рэгулярна. Яе мэта – інфармаваць вас пра навіны беларускага жыцьця ў Вялікай Брытаніі.**

**Дзеля працягненьня беларускіх традыцый у Брытаніі, мы вырашылі назваць друкаваную вэрсію ў гонар першай беларускай газэты ў Вялікай Брытаніі – «Беларус на чужыне». Калі вы маеце пытаньні, жадаеце падпісацца на электронную вэрсію ці маеце навіны ці абвесткі, якія б хацелі ўбачыць у наступным выпуску, калі ласка, пішыце на alexander.cajcyc@gmail.com.**

***

## НАВІНЫ

### Дзень Слуцкага збройнага чыну ў Лёндане

Згуртаваньне беларусаў у Вялікай Брытаніі 28 лістапада адзначыла ў Лёндане ўгодкі Слуцкага збройнага чыну.

У памяшканьні Беларускага культурна-рэлігійнага цэнтра адбылося традыцыйнае ўшанаваньне памяці слуцкіх паўстанцаў.

Была адслужаная паніхіда памяці ўсіх пагінулых за незалежнасьць Беларусі. Пасьля гэтага адбылося пасяджэньне, заслуханыя выступы, вершы, прысьвечаныя Слуцкаму збройнаму чыну. Старое пакаленьне беларускай дыяспары падзялілася ўспамінамі пра сваіх бацькоў, якія ўдзельнічалі ў збройным чыне. Выступілі госьці - грэка-каталіцкія сьвятары з Беларусі.

// Наша Ніва

### Пачаліся працы па перабудове Marian House

Пачаліся працы па перабудове Дома Марыянаў – галоўнага будынку Беларускага рэлігійна-культурнага цэнтру ў Лёндане.

Будынак быў набыты на ахвяраваньні беларусаў з усяго сьвету ў канцы 1950-х гадоў для патрэбаў Беларускай каталіцкай місіі. Цягам дзясяцігодзьдзяў тут месьцілася царква сьвятых апосталаў Пятра і Паўла, жылі сьвятары і знаходзілася кніжная калекцыя, якая потым перарасла ў Беларускую бібліятэку й музэй імя Францішка Скарыны. Чакаецца, што працы завершацца праз два гады. У доме будуць заля Беларускага рэлігійна-культурнага цэнтру і памяшканьні для сьвятароў і гасьцей Каталіцкае місіі. Да існуючага будынку будзе прыбудаваная новая царква.

// belarusians.co.uk

### Адбыўся першы сход PUBB - Professionals Union of Belarusians in Britain

26 лістапада адбылася першая сустрэча Зьвязу беларускіх прафэсіяналаў у Брытаніі (Professionals Union of Belarusians in Britain, PUBB). Удзельнікі зацьвердзілі статут клюба, абралі каардынатара і сакратара.
Мэты аб'яднаньня - спрыяць асабістым і дзелавым сувязям паміж беларускімі прафэсіяналамі, якія працуюць і жывуць у Вялікай Брытаніі, і стварыць умовы для аблягчэньня карыстаньня імі беларускай моваю.

### Суботнік у беларускім цэнтры

Суботнік адбыўся ў Беларускім культурна-рэлігійным цэнтры 12 сьнежня. На добрым надвор'і і сьвежым паветры ўдзельнікі ўпарадкавалі зьнешні і ўнутраны двор, сабралі лісьце.

## АНОНСЫ ПАДЗЕЯЎ

### Традыцыйная батлейка

Субота, 19 сьнежня, 14:00

Беларускі культурна-рэлігійны цэнтар
(39 Holden Road, London N12 8HS)

У праграме - традыцыйная і ўсемі любімая Батлейка (калядны лялечны спэктакль) у выкананьні Паўла Шаўцова.

Сьвяты Мікалай будзе раздаваць падарункі, таму калі Вы плянуеце прыйсьці зь дзецьмі, падрыхтуйце падарункі для кожнага дзіцяці і перадайце іх Паўлу перад прадстаўленьнем.
Калі можаце, прыходзьце ў беларускіх народных строях.

Будзьце гатовыя сьпяваць беларускія і англійскія калядныя песьні! Уваход бясплатны, будуць прымацца ахвяраваньні. Традыцыйныя калядныя стравы і напоі - беларускія ці ангельскія - вельмі вітаюцца да сьвята.

### Сьвята Божага Нараджэньня

Чацьвер, 24 сьнежня, 18:30

Беларускі культурна-рэлігійны цэнтар
(39 Holden Road, London N12 8HS)

Айцец Аляксандар Надсан і айцец Сяргей Стасевіч адслужаць традыцыйнае грэка-каталіцкае набажэнства (Вячэрню зь Літургіяй сьвятога Базыля) з нагоды сьвята Божага нараджэньня.

Пачатак набажэнства а 18:30, пасьля яго – традыцыйная супольная посная Куцьця (рыба і вэгетарыянскія стравы). Прынясеньне вернікамі ежы і напояў вітаецца.

Раніцаю 25 сьнежня будуць адслужаныя Ютрань і Боская Літургія (пачатак а 9:30)

## АБВЕСТКІ

### Штотыднёвыя беларускія набажнствы

Беларускія грэка-каталіцкія набажэнствы адбываюцца кожную нядзелю ў Беларускім культурна-рэлігійным цэнтры а 10:30 раніцы. Па заканчэньні набажэнства - невялікае беларускае чаепіцьце. Усе жадаючыя сардэчна запрашаюцца.

## КАРЫСНЫЯ РЭСУРСЫ

belarusians.co.uk/ - «Беларусы ў Вялікабрытаніі», інфармацыйны блёг

www.skaryna.org - Беларускі культурна-рэлігійны цэнтар у Лёндане

www.anglobelarus.org.uk - ангельска-беларускае таварыства

groups.google.com/group /Belondon - Рассылка для беларусаў у Лёндане

community.livejournal.com /belorusy_uk - Суполка брытанскіх беларусаў у ЖЖ

Суполкі на Facebook: Anglo-Belarusian Society, Belarusians in the UK